Год V. Кастрычнік № 10 (57).

# Шлях Моладзі

…„Падымайся з нізін, сакаліна сям'я
Над крыжамі бацькоў, над нягодамі!
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між народамі."
ЯНКА КУПАЛА.



ВІЛЬНЯ, 1933 г.

**Беларуская Друкарня ім. Францішка Скарыны — Вільня, Завальная вул. № 1**

**Адміністрацыя „Шляху Моладзі“ просіць усіх сваіх даўжнікоў выраўнаць у як найхутчэйшым часе доўг, бо ў праціўным выпадку высылка часопісі будзе ўстрымана.**

| | | |
|---|---|---|
| A, a — А, а. | J, j — Й, й. | R, r — Р, р. |
| B, b — Б, б. | Ja, ja — Я, я. | S, s — С, с. |
| C, c — Ц, ц. | Je, je — Е, е. | Ś, ś — СЬ, сь. |
| Ć, ć — ЦЬ, ць. | Ju, ju — Ю, ю. | Š, š — Ш, ш. |
| Č, č — Ч, ч. | K, k — К, к. | T, t — Т, т. |
| D, d, — Д, д. | L, l — ЛЬ, ль. | U, u — У у. |
| E, e — Э, э. | Ł ł, — Л, л. | Ŭ, ŭ — Ў, ў. |
| F, f — Ф, ф. | M, m — М, м. | V, v — В, в. |
| G, g — Г, г. | N, n — Н, н. | Y, y — Ы, ы. |
| H, h — Г, г. | Ń, ń — НЬ, нь. | Z, z — З, з. |
| Ch, ch — Х, х. | O, o — О, о. | Ž, ž — Ж, ж. |
| I, i — І, і. | P, p — П, п. | Ź ź — ЗЬ, зь. |


# „Шлях Моладзі“

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

Цана асобнага нумару 30 гр.

Падпіска на 3 месяцы . . . . 50 гр.
„ на паўгода. . . . . . 1 зл.
„ на год . . . . . . . . 2 зл.
Заграніцу — ўдвая даражэй.

Цана абвестак паводле ўмовы.

**Адрэс Рэдакцыі:** Вільня (Wilno), Завальная № 1 — 3
Рэдакцыя адчынена ад гадз. 9 да 3-яй папаўдні.

# Шлях Моладзі

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

| Год V. | Вільня, Кастрычнік 1933 г. | № 10(57). |
|---|---|---|

## Прэса і яе пашыраньне.

Пачатак прэсы, гэта значыць пачатак выдаваньня рознага роду часопісяў і газэтаў сягае вельмі даўных часоў. Яшчэ ў старадаўных Эгіпце і Рыме пачалі ўжо паказвацца пісаныя ад рукі на дошцы ўрадавыя газэты, служачыя пераважна да падаваньня да агульнага ведама розных законаў. Гэтая першабытная прэса разьвівалася вельмі паволі і толькі вынайдзены ў 1456 годзе Гутэнбэргам друк даў ёй магчымасьць шырэйшага і большага размаху.

Першая друкаваная часопісь у Эўропе*), ці мо' лепш — узор часопісі паявіўся ў 1502 г. ў Нямеччыне пад назовам „Neue Zeitung“. Другой з чаргі пачала выходзіць у 1609 г. ў Штрасбургу (сяньня ў Францыі) часопісь „Relation“; пасьля ў 1660 г. паявілася ўжо штодзенная газэта „Leipziger Zeitung“, а за імі цэлы рад іншых часопісяў па ўсім сьвеце, у розных мовах, розных фарматах і рознай колькасьці. Сягоньня ўжо кожны менш-больш культурны народ мае сваю прэсу; наклады ж некаторых газэт сягаюць ужо мільёнаў экзэмпляроў. Сярод гэтай сусьветнай рознароднай, папяровай, але магутнай масы не пасьледняе ўжо мейсца займае і прэса беларуская, якая пачатак свой, як ведаем, бярэ сьпярша нелегальна ў 1862 г. („Mużyckaja Prauda“), а пасьля легальна ў 1905 г. („Наша Доля“).

Значэньне прэсы цяпер аграмаднае. Яна дае нам і цікавыя весткі і апісаньні жыцьця людзей у іншых краёх і веду і разрыўку, а так-жа луча нас. Сяньня прэса мае вялікі ўплыў на розныя падзеі, яна ўважаецца публічным голасам грамадзянства, з яе думкай лічацца часта найвялікшыя валадары гэтага сьвету. Агулам, прэса цяпер зьяўляецца аднэй з найгалаўнейшых галін грамадзкага і культурна-духовага жыцьця. Прэса ёсьць ужо штодзеннай неабходнасьцяй ня толькі інтэлігента, але работніка і селяніна.

---

*) У Кітаі (Азія) друкаваныя іхным спосабам газэты былі выдаваны раней.

Разумеецца, што найбольш карыснай прэсай для кожнага чалавека ёсьць прэса родная, блізкая яму духам, словам і ідэалам. Для нас беларусоў, ды яшчэ ў сучасны мамэнт, калі на ўласнай зямлі і ў уласным краі не зьяўляемся гаспадарамі, родная нацыянальна-беларуская і то сільная прэса проста неабходная. Бо толькі свая беларуская прэса адважыцца бараніць свой народ ад чужых асаднікаў, ад надмерных падаткаў, ад русыфікацыі і ад полёнізацыі і разьнясе нашы жаданьні і нашы крыўды па ўсім сьвеце, а так-жа будзе нас вучыць, як маемо жыць і будзе вясьці да поўнага адраджэньня, да сьвятла, да шчасьця, да палепшаньня быту і да праўды. Чужая прэса, асабліва прэса нашых «апякуноў» гэтага ня зробе, бо не ў яе гэта інтарэсах, — яе заданьне і яе імкненьні зусім іншыя, а найчасьцей і проста варожыя імкненьням нашага народу.

Беларуская незалежніцкая прэса заўсёды бараніла, бароніць і будзе бараніць інтарэсаў перадусім свайго беларускага народу. Праўда, сярод яе знаходзіліся і знаходзяцца таксама часопісі, якія, будучы на службе ў ворагаў беларускага народу, ішлі — і ідуць! — з шыльдам „беларускім“, адцягваць народ ад ягоных ідэалаў. Усе гэтыя часопісі хоць карысталіся свабодай і падтрыманьнем сільнейшых гэтага сьвету, хутка банкрутавалі і банкрутаваць будуць далей, калі ня стануць на грунт цьвёрды, народна-беларускі, самастойны і незалежны.

У чым-жа справа? – Справа ў тым, што незалежная беларуская прэса ёсьць яшчэ слабая, а яна мусіць быць сільная, бо сіла, з якой борыцца, вялізарная. Дзеля таго абавязкам кожнага беларуса ёсьць падтрымліваць сваю прэсу і пашыраць. Падтрымліваць яе можа кожны, выпісваючы яе хоць за невялікую плату, а таксама прысыланьнем у рэдакцыю мятэрыялаў, гэта значыць стацьцей, апавяданьняў і розных вестак з штодзеннага народна-грамадзкага беларускага жыцьця, не канешне пісаных прыгожымі славамі і прыгожай формай: ад таго рэдакцыя, каб усё папраўіла. Сумы сабраныя з падпіскі паслужаць да пабольшваньня часопісаў, а матэрыялы і весткі—да ўзбагачаньня зьместу часопісаў і да ярчэйшага адбіцьця народнага быту і яго імкненьняў.

Праўда, беларуская незалежніцкая прэса, як нялюбая сучасным нашым валадаром, напатыкае ў сваім існаваньні на розныя, найчасьцей беспадстаўныя перашкоды. Вось-жа 105 арт. Польскае Канстытуцыі дае магчымасьці разьвіцьця і нашай прэсе. У гэтым артыкуле гэтак сказана:

«Забясьпечваецца свабода прэсы. Ня можа быць уведзена цэнзура або канцэсыйная сыстэма на выдаваньне друкаў. Краёвым друкам і газэтам ня можа быць аднята магчымасьць карыстацца поштаю і яны ня могуць быць

абмяжаваны ў магчымасьці распаўсюджваньня іх на абшары Рэспублікі.. »

Значыцца прэса беларуская ёсьць легальнай і той, хто яе прасьледуе, той ломіць існуючыя законы. Дык і няма чаго тады баяцца ўсялякіх перашкодаў, а трэба з імі сьмела змагацца, помнячы заўсёды, што калі мы хочам жыць, то мусім мець сваю сільную прэсу, а паложаная энэргія на яе разьвіцьцё і выданая залатоўка аплаціцца ў некалькі разоў.

У пашыраньні беларускай прэсы і выганяньні чужой, так як і агулам у беларускім адраджэньні, моладзь павінна найбольш працаваць, бо гэта яе сьвяты абавязак.

Я. Н.

# Недарэчная рэформа.

Перажываем часы сьмелых рэформаў правапісу. У Польшчы гаворыцца аб скасаваньні падвойных літараў, як „cz“ і „sz“ і заступленьні іх знакамі „č“, „š“ практыкаванымі цяпер у Беларусоў, Чэхаў ды інш. Па зрачэньні з пэўных традыцыяў, было-б гэта бязумоўна вялікае палягчэньне, зьвязанае з ашчаднасьцю працы, паперы і дзеля гэтага такая рэформа мела-б сваё апраўданьне.

Савецкі Саюз ад пачатку свайго існаваньня адзначаўся рэвалюцыйнасьцяй у галіне правапісу. Некаторым народам на абшары СССР накінена лацінская абэцэда, асабліва тым, якія дагэтуль наагул ня мелі ніякага пісьменства. Гаворыцца нямала і пішыцца аб увядзеньні лацінскай абэцэды нават у расейскую мову. Скасаваньне „цьвёрдага знаку“ і „яць“ выглядала-б пры такой рэформе нязначнай толькі папраўкай.

На апраўданьне гэтай рэформы мелі-б бальшавікі аднак тлумачэньне, што імкнуцца да збліжэньня ўсіх народаў, да аблягчэньня супрацоўніцтва і ўзаемнага паразуменьня. Была-б гэта рэформа характару выключна графічнага і ніколі ня ўплывала-б на фонэтычную галіну расейскае мовы. Ня мае аднак ніякіх жыцьцёвых падставаў тая рэформа, якая йдзе наперакор духу мовы, і заместа ўсталіць пэўныя правы існуючыя ўжо ў практыцы — накідае згары правілы, будучыя ў супярэчнасьці з жывой мовай, калечучы яе ў імя палітычных тэндэнцыяў.

Так сталася ў адносінах бальшавікоў да беларускай мовы ў Савецкай Беларусі. Ад 15-га верасьня с. г. па загаду Рады Народных Камісараў(!) абавязвае там зрэформаваны беларускі правапіс, які абымае 27 языковых асаблівасьцяў беларускае мовы і паводле якога выкідаецца мягкі знак

паміж мягкімі зычнымі: замест, як дагэтуль пісалі, сьнег, дзьверы, цьвёрды, пастаноўлена пісаць снег, дзверы, цвёрды; таксама выкінуты мягкі знак паміж групамі падвойных зычных; інтэрнацыянальныя словы не падпарадкавываць агульнаму правілу аб аканьню, чужыя словы з „г" перадаваць цьвёрда, у запазычаных словах пасьля „с", „з" заўсёды пісаць „і", а ня „ы", як гэтага вымагае беларуская мова; назоўнікі музчынскага роду ў родным склоне адзіночнага ліку пісаць з канчаткам „—а", „—я" так, як у расейскай мове і ім падобныя зьмены.

Нельга на гэтым месцы вылічыць усе новыя правілы ў гэтай „навуковай" — на загад Рады Камісараў — рэформе. Для з'ілюстраваньня аднак, які гвалт зроблены ў Менску над беларускім правапісам, можа паслужыць наступны сказ, зложаны з адпаведна дабраных слоў. Паводле ўжо ўсталенага правапісу замест:

„Прафэсар праскага унівэрсытэту гаварыў у гарадзкім клюбе аб клясавым змаганьні, аб разьвіцьці соцыялізму, і аб сыстэмах фізычнага ўзгадаваньня народу",

напісалі-б паводле савецкага правапісу гэтак:

„Прафесар пражскага універсітета гаварыў у гарадскім клубе аб класавым змаганні, аб развіцці соцыялізма і аб сістемах узгадавання народа".

Зьмена гэта правапісу радыкальна зьмяняе дагэтуль практыкаваны ў беларускім народзе і сярод інтэлігенцыі выгавар і вось у гэтым іменна і няўдачнасьць „рэформы".

Нават ня трэба дакладна ведаць беларускую і расейскую мовы, каб сьцьвердзіць, што ідзе тут аб зблiжэньне беларушчыны да расейскай мовы і—паступовае зліцьцё з ею.

Ёсьць гэта йшчэ адзін доказ блага замаскаванага маскоўскага шовінізму, які — гэтым разам пад маскай розных „упрашчэньняў" і „палёгкаў" у правапісе — ставе ўсьцяж новыя перашкоды дальшай разбудоўцы беларускай культуры.

Ня можна цьвердзіць, што сучасны беларускі правапіс ёсьць дасканальным, але ня трэба гэтага і пужацца: натуральны разрост мовы мусіць выклікаць і рэформу самога правапісу. Толькі гэта рэформа павінна быць таксама натуральнай, і ні ў якім выпадку ня сьмее кіравацца чужымі ўзорамі. Гэты гвалт над мовай нашай бальшавікі ўсё-ж зрабілі. Сто разоў аднак горш бы было, калі-б мэтоды бальшавіцкага русыфікаваньня беларускай мовы нашлі спагаднікаў і сярод абруселай нашай інтэлігенцыі па гэты бок рыскай мяжы дзеля таго толькі, што гэтай інтэлігенцыі, не гаворачай дома пабеларуску, цяжкавата беларускую мову пазнаць.

Паўтараем: рэформы беларускага правапісу баяцца ня трэба; вымагаць толькі трэба, каб гэта рэформа была **беларускай**.

Б.

Bazyl St.

# Kaniec śvietu.

(Praciah, hl. „Śl. Moł." Nr. 9).

Sučasny amerykanski vučony astranom Stelson robić cikavy vyvad, što da novaha sposabu kanca śvietu.

Karotka ŭziaŭšy, historyja zusim prostaja: ziamla nia zhinie ani praz sonca, ani praz miesiac, ani praz kametu, ani praz niejkuju niabiesnuju bombu, ani praz ułasnaje astyvańnie — tolki zhinie ŭ zimnym kosmičnym tumanie.

U adzin pryhožy dzień, abo ŭ takuju-ž noč ujedziem na našaj ziamli ŭ takuju imhlistaść ci kosmičny tuman, jak lotčyk u ciomnuju chmaru, a vyjedziem adtul užo niabožčykami...

Kab zrazumieć hetu mahčymaść i sutnaść padobnaha źjavišča, musim uprytomnić sabie, što heta za štuka kosmičny tuman, abo jnakš — imhlistaść i pašukać jaho siarod prastoraŭ usieśvietu.

Imhlistaści znachodziacca ad nas vielmi, vielmi daloka — u hetych vakolicach biaźmiežnaha kosmosu, dzie znachodziacca zorkavyja „chmary", jakija pradstaŭlajuć saboju vialikaje nahramadžeńnie zorak, a bačanyja z ziamli, tvorać ahramadnyja kłubavyja masy, padobnyja pa svajej formie da chmaraŭ na letnim niebie.

Chmary hetyja składajuć časć našaha Mlečnaha Šlachu, pryhožaj zornaj raki, jaki vyhladaje byccam siarebrany pojas na ciomnym niebie, bačany ŭ pahodnyja nočy.

Dzie-ž tut adnak miejsca na kosmičnuju imhłu, abo kosmičny tuman? — Zaraz na heta adkažam. Zusim nie źjaŭlajucca imhłoj abo kosmičnym tumanam tyja zorkavyja chmary, jakija składajucca sapraŭdy z ahramadnych zoraŭ, kožnaja z jakich nia mienšaja ad našaha sonca, a to časam i bolšaja i tolki ahramadnaja adležnaść źlivaje dla našaha voka ŭsio heta ŭ adnu masu. Ab mahutnaj vialičyni hetych chmaraŭ skažu, što niekatoryja z ich składajucca pryblizna z 800 miljonaŭ „štuk" zoraŭ, a adležnaść ich ad ziamli raŭniajecca 50 tysiačam śvietłavych hadoŭ (u astranomii vialikija adležnaść mierycca tak zvanymi śvietłavymi hadami; adzin taki śvietłavy hod pradstaŭlaje saboju adležnaść 9 z pałovaj miljonaŭ kilometraŭ).

Kosmičny tuman znachodzicca ŭ druhim miejscy Mlečnaha Šlachu. Imienna tam, dzie Mlečny Šlach ciomny, dzie vystupajuć u im byccam niejkija „dzivy", jakija ŭ pahodnuju noč možna bačyć hołym vokam. Dzivy hetyja, abo lepš ciomnyja plamy majuć roznyja formy i pieravažna nierehularnyja. Na fonie jasna-siarebranym faktyčna padobnyja jany da dziuraŭ ciomnych.

Dumali daŭniej, što heta sapraŭdy zusim pustyja prorvy pamiž chmarami zorak.

Adnak hetuju teoryju pakinuli. Ciapier ahulna pryniata hipoteza, što hetyja plamy nia jość jamimiś prorvami, ale naadvarot: niejkaj skoncentravanaj materyjaj u formie hazu, abo drobnaha pyłu, jaki nosicca ŭ prastory pamiž ziamloj i Mlečnym Šlacham, a nie prapuskajučy praz siabie śviatła, zaciamniaje nam vid zoraŭ u peŭnych miajscoch.

Heta faktyčna i jość kosmičnyja chmary, abo tumany. Składajucca jany z kosmičnaha pyłu, jaki zavuć taksama „materyjaj śvietu" — abo materyjaj, z jakoj tvarylisia i tvoracca śviety, składajučyja ŭsieśviet — kosmos.

Hetyja chmary abo tumany byli-b, značycca, najbolš razredžanaj pramateryjaj usieśvietu, jakaja jašče nia zdoleła ŭfarmavacca pad upłyvam niejkaha vonkavaha dziejnika, a sama nia moža skoncentravacca, dziela absalutnaha zimna, jaki panuje ŭ kosmičnych prastorach. Z hetaha vynikaje, što heta hazy zimnyja, chmary ci ladavatyja tumany, a navat bolš čym ladavatyja — tak chałodnyja, što pry ich, najciažejšyja marozy na ziamnych polusach možna nazvać haračymi śpiekami...

Ciapier užo razumiejem, čamu spacyr praz taki kosmičny tuman musić być śmiarotnym dla ŭsiaho, što tolki žyvie na ziamli, kali-b tolki ziamla pierajšla praz takuju chmaru.

Ci piarojdzie adnak? Jość dźvie mahčymaści: adna dalejšaja, druhaja bližejšaja.

Jak viedama, naša ziamla, kružačysia navokał sonca z inšymi planetami, lacić razam z soncam praz biaźmiežnyja prastory ŭsieśvietu z skaraściu 20 kilometraŭ na sekundu. Kaliści praŭdapadobna pierajšła ŭžo jana praz chmaru takoha zimnoha kosmičnaha tumanu i mahčyma dziela hetaha, dumajuć, byŭ na ziamli ledavikovy peryjad.

Latučy tak „na złamańnie karku" ziamla jznoŭ moža papaści ŭ chałodny kosmičny tuman i ŭznoŭ dastać ad jaho „na pamiatku" ledavikovy peryjad, jaki moža ciapier abniać usiu ziamlu. Kaliści ziamla była šmat haračejšaja ŭnutry, dyk vakolicy, lažačyja pad ekvataram, nie mahli pakrycca ladami. Ciapier užo ziamla pastareła i pazimnieła, dyk haścina ŭ kosmičnym tumanie šmat jej kaštavała-b.

Jašče prypuščaje astranom Stelson, što chmary ledavataha tumanu mohuć sfarmavacca abo prosta ŭvarvacca ŭ prastor zaniaty našaj sonečnaj systemaj. Tady ziamla vykupaŭšysia ŭ ledavatym kosmičnym tumanie, stałasia-b sama ahramadnym kuskom lodu.

Jak by tam nia było, ale daŭžejšaje prabyvańnie ŭ takim tumanie było b śmierciaj usiamu žyvomu. Zhinuli-b nia tolki ludzi i nia tolki ŭsie vyšejšyja arhanizmy, ale i ŭsie mikroarhanizmy. A heta pryčyniłasia-b da taho, što ŭ budučyni pry hetkich varunkach napeŭna nia zdoleła-b adradzicca nijakaje žyćcio na ziamli ŭ takich formach, jak bačym heta siańnia.

Urešcie gieolog Lion Levis pradskazvaje, što kaniec śvietu moža nastupić nia tolki za sto, tysiaču, abo miljon hadoŭ, ale taksama zaŭtra, paśla zaŭtra — dy ŭ kožnaj chvilinie. Pradskazańnie svajo apiraje jon na nastupnych dadzienych: kala polusaŭ viečna panuje choład i idzie śnieh, tak što praz 10.000 hadoŭ hłybinia jaho budzie mieć 92 kilometry. Z pryčyny taho, što niama tam daždžoŭ, śnieh nia taić, a pad svaim ciažaram źbivajecca ŭ lod, jaki što raz uzrastaje. Ciapier pavałoka lodu na paŭdniovym polusie abymaje abšar taki samy, jak Paŭnočnaja Ameryka. Ale voś moža tak stacca, što lady pačnuć taić i tady ŭsie budziem zhublenyja, bo nastupić ladovy patop: miljony kubičnych metraŭ lodu buduć pierci praz Atlantycki akijan, a na pustoje miejsca na paŭdniovym polusie chłynie ad uschodu Indyjski akijan, a ad zachadu — akijan Spakojny. Patop ladovy papłyvie praz Afryku i Eŭropu, niščačy pa darozie ŭsio, što napatkaje. Pa patopie nastupić, pavodle Leviso, ladavy peryjad na našaj ziamnoj kuli.

U takich vypadkach nijakaha žyćcia na ziamli nie astaniecca. K a n i e c.

# 10-ty Mižnarodny Dzień Aščadnaści

Za prykładam apošnich 9-ch hadoŭ, 31-ha kastryčnika siol. hodu uvieś kulturny śviet 10-ty ŭžo raz supolna budzie abhavaryvać jak treba žyć, kab nie marnavać darma *hrašej, pracy i času* i jak ideju aščadnaści najbolš raspaŭsiudžyvać. Z hetaj metaj buduć ładžany lekcyi akademii i h. d. i h. d,

U nas, Biełarusoŭ, hetaha nažal jašče niama. Ludzi adniekivajucca ad hetaha z pryčyny ciažkoha pałažeńnia. Ale jakraz kali ciažka žyviecca, tady i treba pieradusim staracca być aščadnym, kab z biadoty svajej jak najchutčej vyjści. Nia majem my hrašej aščadžać, to kirujmasia ŭ svaich vydatkach prynamsia tak, kab jany tolki karyść nam prynosili. I tut musim sabie adrazu skazać: — Proč z harełkaj i tytuniom. Taksama nie marnavać času, a vykarystyvać jaho u jak najlepšy sposab — treba čytać, vučycca, uśviedamlacca ih.d.

Kali my budziem ciomnymi, nie ačytanymi, nia budziem viedać, jak ludzi žyvuć, jak zmahalisia i zmahajucca za papravu svajho losu, to my hetaha nia zdalejem nikoli dabicca. Ahułam para razumieć narešcie, što kali my budziem marnavać i hroš, i čas na pustoj bałtaŭni, to budziem viečna niavolnikami nie adnaho to druhoha „pana".

Dyk aščadžajma svaje vydatki, aščadžajma čas, aščadžajma pracu, aščadžajma zdaroŭje! *J.—k.*

# Літэратурны аддзел.

## С. П. МІХАСЮ ЯВАРУ.

(*Замест вянка на магілку*)

І каго Ты маўчаньнем спужаеш
Адышоўшы ў падзорную даль?
І над чым там цяпер разважаеш?
Ці нічога Табе тут ня жаль?

Наша поле з даўна не багата,
У асотах заглохлі жыты:
Але там не сьпяваюць дзяўчаты,
Ня шумяць ціха з ветрам кусты.

Абарваліся звонкія струны,
Распяяны раптоўна замоўк,
Безнадзеныя, хмурыя будні
І жыцьцёвая сьцежка ўзмрок.

На абліччы сьцюдзёна-маўклівым
Прад сьмяротнай пячаткаю сум.
Дзе агонь тваіх творчых парываў
І ўздымы бунтуючых дум?

Я ня знаю хто тут вінаваты
І нікога судзіць не бярусь.
Ў сэрцы боль ад прадчаснае страты
І за долю тваю, Беларусь.

Толькі знаю, што там у Падзорным
Няжывым і сьцюдзёным краю
Засумуеш, Міхась, ты па родным
Як прыпомніш жыцьцё і зямлю.

Няма часу на сьлёзы над мёртвым,
Нам жывым — на жыцьцёвым шляху,
Трэба быць і ўпартым і цьвёрдым
Ў гэтым жорсткім, няроўным баю.

Толькі шкода да болі вясёлых
Тапаліных напеваў тваіх.
Адшумеў між калосьсяў зялёных
І зялёным загас між жывых.

Няжывыя сьцюдзёныя рукі
І ўсьмешку балючую губ
Без дакору, бяз крыўды і мукі
Ты зямелька прымі -- прыгалуб.

**Міхась Машара.**

## СЬМЕРЦЬ.

*„Memento mori.“*

Чаго ты загубная ходзіш за мною,
Чаму ты, як вязьня, мяне сьцеражэш?
З касьцістым абліччам і вострай касою
Чаго ты, як цень маім сьледам ідзеш?
На сьвет паглядаеш ты воўкам з засадкі,
Крадзешся як злодзей, як тыгр, ці як леў,
Сабою канчаеш бяду і дастаткі,
Ты вечна магутна, як прыязьнь, ці гнеў.
Ты тут! І мы бачым як чын твой вось сьвежы
Ляжыць прыпячатаны штэмплем тваім.
Ты там! Перайшоўшы загробныя межы
Аднак дзьверы насьцеж пакінула ўсім.
І вырваўшы іскру з жыцьця маладога,
Як вуж, прытаілася ў цягу гадзін,
Дарэмныя сьлёзы і жальбы да тога,
Твой голас апошні для ўсіх нас адзін.
Твой сон так магутны, як п'яныя чары,
Як моцна атрута, як грозны праклён,
На пожні снапамі кладзеш ты ахвяры,
Дарма нам змагацца — хоць нас легіон.
Ад ўсходу на захад свайго бытаваньня
Жмут іскраў хапаем, што выдзьмуў каваль,
Мы тыя гулякі, што ў час прад скананьнем
Спраўляем агульны, апошні свой баль!

**Язэп Вількоўскі.**

## ПАЭТУ.

Надарма ты строіш парваныя струны
Надарма ты клеіш пабітую ліру,
Зайграць не зайграеш ты так як пяруны,
Бо сэрца тваё, як бы звон чыгунны,
Ня возьміць больш ноту высоку і шчыру,
Бо ты ёсьць нявольнік сябе,людзей сьвету,
А воля патрэбна паэту.

Надарма ты блудзіш, сумуеш душою,
Шукаеш па сьвеце свабоды і шчасьця,
Шукаеш для песьні такога настрою,
Які яе зробіць гаючай расою,
Каб потым гаіла людзкія няшчасьці.
Настрою такога ня знайдзеш ніколі,
Як будзе твой дух у няволі.

**Ул. Берняковіч.**

## ВАСЕНЬНІМ КВЕТКАМ.

Люблю вас, красачкі апошнія палёў!...
Пад небам поўначы ўзрасьлі вы на нядолю
Суровы лёс вам выпаў: многа болю
Зьнясьці гаручага і многа сьлёз праліць
І без надзей, без лятуценьняў жыць
І згінуць без пары, бяз сьветлых сноў...
Дык за ваш боль, за вашую нядолю
Люблю вас, кветачкі васеньнія палёў.
Вы позна, краскі мілыя, ўзрасьлі
Ў туманах восені, на апусьцеўшым полі
Сячэ вас дождж, гне вецер да зямлі
І росы вас халодныя абмылі...
Ды сонца не пабачыце ніколі;
Дні шчасьця вашага даўно сплылі
І апусьцелі чорныя палі
І золак сонца чорны хмары скрылі.
Я вас люблю, васеньнія цьвяты,
За сонных вочак вашых ціхае зіяньне,
Што будзіць думкі шчасьця і каханьня.
Хоць вецер злосна рве вашы лісты.
Наўкола пеніцца нядолі мора,
На сьвет апаў жалобы чорны цень,
А ў вочках вашых сьвеціцца пакора,
Жаданьне вытрываць і вера ў сьветлы дзень...
Калісь, даўно, ў вачах дзяўчыны мілай
Сьвяцілісь для мяне чароўныя агні,
Але даўно мінулі тыя дні
І золак шчасьця хмара болю скрыла...
У тых вачох ў балючы міг расстаньня
Гарэў нясьмелы праблеск залаты...
Я не забыў яго... О, мілая, дзе ты?...
Міўгань апошнія васеньнія цьвяты...

**А. Бярозка.**

* * *

Як сонца прамень, як матыль златакрылы
Мільгнула ты дзіўнай красою сваей,
Жыцьця майго шэрага шлях асьвяціла —
І зьнікла так хутка, раптоўна з вачэй.
Зьяўленьнем сваім так чароўна прынадным,
Ты сумныя думкі мне з сэрца зьняла,
Узрокам вачэй так бязьмерна уладным
Мне ў душу нэктар жыцьцятворчы ўліла.
Няма ўжо цябе!.. Аднак воблік чароўны
Усьцяж ў маім сэрцы вясёлкай гарыць,
Магутнай красы твае чар нявымоўны
О, не, не змагу я ніколі забыць!

**С. Гаротны.**

* * *

Вось як толькі восень
Ды ужо падходзе
Сум такі вялікі
На мяне надходзе —
Што я сам ня знаю
Скуль ён злы бярэцца:
Кажуць, што спрадвеку
Гэтак вось вядзецца.
Хай ў прыродзе стане
Ды к зіме кланіцца
Маркота й устаньне
Нейкае валіцца.
Як-бы сэрца чуе
Ды бяду зладзейку,
Ці згубіў астатню
Я сваю капейку,
Ці з раднёй меў звадку
Ці... і сам ня знаю,
Толькі штось такое
Я на сэрцы маю.
Хай яшчэ пачую
Крык я жураўліны
Тут-жа адчуваю
Нейкі трэпет інны
І хачу ім крыкнуць:
„Стой! куды нясешся?
Заляці ка мне ты,
Пад'ясі, нап'ешся...
Глянь: вось рэчку маю,
Весела бяз конца,
Ад людзей, ад стрэльбаў
Я твой абаронца."
Дзе... куды... ня чуюць
І нясуцца далі
Днююць мо' й начуюць
На нябеснай хвалі.
І глядзець я буду
З жалем на радочкі,
Покуль забаляць мне,
Ці ня ўвідзяць вочкі.
А тады галоўку
Я уніз апускаю
І чагось мне шкода,
А чаго — й ня знаю.

П. Прадуха.

ВОСЕНЬ.

Восень сумна наступіла
Дні ўсё убываюць.
Нуда поле апавіла,
Бульбачку капаюць.
Птушкі стадамі лятаюць
Адбываюць веча,
Аб адлёце пэўна дбаюць
Ціханька шчабечаць.
Ліст на дрэвах ўжо жаўцее,
Падаць пачынае.
На падворку халадзее,
Дожджык палівае.
Ноччу ўбачыўшы марозік,
Пасыхаюць кветкі.
У балоце гразьне возік,
Шумяць ў хаце дзеткі.
Ў сушню да льну сабірае
Мяльк-баб кастрычнік
З дрэваў лісьце абдзірае
Вецярок-апрычнік.
Акрываюць зямлю ночкай,
Шэрыя туманы,
Пралятаюць трыкуточкам
Гусак караваны.
Траўка сохне і жаўцее
Холадам пабіта,
Толькі сьвежа зелянее
Маладое жыта.
Сад радзее бязупынна
Куст голы гаруе,
Днём і ночай бязустанна
Лістапад працуе.
Ўжо скаціна дрэмле ў сене,
З хлява ня выходзіць.
Ночай цёмнаю васеньняй
Воўк галодны бродзіць.
Хмары часта неба муцяць
Сонца рэдка блішча,
Крупень ў шыбы дробны бу-
[біць
Вецер дзіка сьвішча.

А. Жук.

## Dla našych małodšych.

### U VOSIEŃ.

*Sonca ŭ chmarki ŭžo schavałaś,*
*Vosień sumnaja pryšła,*
*Doždžyk, viecier, hraź i choład*
*K nam z saboju pryniasła.*

*Zažuryŭsia haj šumavy,*
*Drevy žałasna šumiać;*
*Na halinkach, byccam ślozki,*
*Kropli mutnyja visiać.*

*Nie ščabiečuć užo bolej*
*Ptuški zvonkija ŭ paloch,*
*I nia lotajuć viasioła*
*Matyločki na muroch.*

*Niama kvietačak u poli,*
*Nie krasuje vasilok*
*I nia źjaje pazałotaj*
*Pole žytniaje zdalok...*

*Nia žuryciecia, Vy dzietki:*
*Znoŭ k nam viernięcca viasna,*
*Znoŭ ciapło, śviatło i kvietki*
*Pryniasie z saboŭ jana!*

*J. ŽURBA.*

**М. Бароўскі.**

# Першая няўдача.

Янка яшчэ змалку зацікавіўся пчалярствам. Ён усё памагаў свайму бацьку на пчальніку і праз нейкі час так добра пазнаў жыцьцё кожнага пчалінага доміку, што быццам сам у ім пабываў. Ведаў ён добра, як выглядае царыца-матка, трутні, рабочыя пчолкі, помніў, які рой ад якога паходзіць і г. д. Любоў да пчалярства ў Янкі штораз збольшвалася.

Аднаго году Янка ўздумаў залажыць сабе свой уласны пчальнік. Ён даўно чуў пра дзядзьку Пятра, які летась злавіў у лесе рой, а цяпер ужо мае пяць вулікаў з пчоламі. Хадзіў часта ў лес і Янка. Хадзіў і заглядаў, ці ня знойдзецца які-небудзь уцёкшы ці зьдзічэўшы рой.

Аж аднойчы над скалаю каля лесу Янка неспадзеўкі ўсьцешыўся: ён увідзеў, як з-пад карча выляталі і ўляталі нейкія сівыя, невялічкія, як пчолы, мушкі—але ня пчолы — гэта былі чмялькі. Там яны мелі сваё гняздо.

Янка на мінутку затрымаўся і падумаў: „А што, калі я прынясу дамоў гэтых чмялькоў і пасаджу іх у вульлей? Чмялі таксама зьбіраюць мёд і з тых самых красак, што й пчолы і кусаюцца як пчолы, усё таксама..“ І ў той час у Янкі паўстала думка завясьці пчалянік чмялёў.

Янка не казаў бацьку ні слова аб сваіх намерах, ён прышоў дамоў і вечарам змайстраваў сабе маленькую драўляную скрыначку, наваскаваў яе воскам, пракруціў з аднаго боку дзірку, як лётку, і цешыўся, што ўжо мае адзін

вулік. На другі дзень раніцай Янка ўзяў свой вулік, сетку, лапатку і пабег пад лес па чмялёў.

Чмялі ўжо былі ў лесе на рабоце. Янка старанна абкапаў кругом дзіркі зямлю і выцягнуў адтуль цэлае чмялінае гняздо. Яно было аблеплена тонкай, цёмнай вашчынай. Янка лёганька прадзёр у ёй невялікую дзірку, ды заглянуў у сярэдзіну да чмялькоў. На дзіва Янкава, гняздо чмялькоў выглядала йначай, як пчол, мядовыя плястры не стаялі адзін каля аднаго, а ляжалі адзін над адным, каморкі з мёдам і чарвой былі круглыя як напарсткі і то толькі з верхняга боку плястра. У каморках сьвяціўся чысты, як шкло, сьветлы мёд.

Maладыя чмялькі ўвідзеўшы няпрошанага гасьця папераварочваліся да гары нагамі і прыгатоўіліся да абароны ад нападу. На споднім плястры лазіў вялікі чмель, гэта пэўна была іхная матка.

Янка даўна гнязда не разглядаў, але ўлажыў яго ў свой вулік, зачыніў яго і паставіў на старое месца. Праз мінуту ўсе чмялькі, якія прыляцелі з песу і круціліся навокал гнязда, сабраліся ў Янкаў вульлей праз дзірку.

Праз гадзінку ўсё ўспакоілася, чмялі лёталі ў поле, быццам у іх нічога ня сталася. Янка таксама ўспакоіўся, пакінуў свой вульлей, пакуль не зьлятуцца ўсе чмялі і пабег дамоў. У садзе, недалёка ад пчальніка бацькі, ён упарадкаваў месца для свайго пчальніка, абгарадзіў яго плотам, насадзіў красак і выкапаў ямку, як раз такую, каб зьмясьціўся яго вулік, у якім ужо сядзелі пад лесам чмялі.

Вечарам, як толькі зайшло сонца, Янка пабег да свайго дзіўнага рою, заткнуў у вульлі лётку, прынёс чмялёў дамоў і пасадзіў іх у ямку, якую для гэтага прыгатаваў. Там чмялі і начавалі.

Янка ў тую ноч ня спаў. Раніцай, ледзь сьвет, ён ужо быў на нагах каля свайго вульля, прыглядаўся, як ягоныя дзіўныя пчолы вылятаді, знаёміліся з новым месцам і ляцелі па мёд. Праз нейкі час, як чмялькі варочаліся дамоў з мёдам і пылком, Янка з радасьці душы у сабе ня чуў. Ён бегаў, скакаў і з вялікай асалодай сьцярог сваю тайну ад усіх. Цяпер ён думаў зплавіць і асадзіць яшчэ некалькі такіх райкоў, а як яны размножацца і наносяць мёду, тады толькі пахваліцца бацьку.

Так і было. Янка хутка змайстраваў яшчэ два такія самыя вульлі, усадзіў у іх чмялёў, якіх знайшоў на полі на мяжы. Адны з іх былі з жоўтымі пасачкамі, а другія з чырвонымі задкамі, прыгожыя, вялікія.

Янка зусім аддаўся працы на сваім пчальніку і бацьку ўжо не памагаў. Ён пабольшываў свае вульлі, памаленьку павыцягіваў іх з зямлі на траўку, парабіў стрэшкі на іх і ўсё як трэба.

З часам Янка залазіў у які-небудзь вулік і лёганька, каб ня бурыць гнязда, смактаў мядок з чмяліных каморак праз саломку. Мёд той яму падабаўся, бо меў прыемны пах і смак. Чмялькі да ўсяго прывыклі, пабольшвалі сваё гняздо, множыліся і нанашвалі мёду.

Пад восень Янка меў аж чатыры такія вулікі. З аднаго найлепшага ўзяў ён плястр мёду і прынёс свайму бацьку. „Вось, гэта ад маіх уласных пчол," сказаў нясьмела Янка. Бацька зьдзіўлена паглядзеў на Янку: узяў мёд, пакаштаваў, але Янкі не хваліў Ён быў нездаволены тым, што Янка не памагаў яму ў пчальніку і сказаў:

— „Усё гэта глупства, бо з чмялёў толку ня будзе" — і пайшоў.

Янка засумаваў, але ня кінуў свайго намеру. Ён быў перакананы, што на другі год, ён завядзе вялікія раі чмялёў—і зьбярэ шмат мёду; ён дакажа бацьку, што й чмялі добрыя мушкі, толькі ніхто аб іх ня дбае.

Стала ўжо зімка. Усё жывое схавалася ў цёпленькія гнязьдзечкі: Янка таксама схаваў сваіх чмялькоў на чмяльніку ў салому. „Сьпеце сабе да вясны,"сказаў ён ім на разьвітаньне, а сам прыгатаўляўся ў школу.У часе свабодным ад навукі Янка майстраваў вулікі для будучага свайго пчальніка. Зіма яму здавалася вельмі даўгой. Ён часта лятуцеў аб вясьне, аб улюбленай працы на пчальніку.

Аж у канцы прыгрэла першае веснавое сонейка, а з ім разбудзілася ўсё да жыцьця, да радасьці.Янку тае вясны было не да радасьці. Пры адкрыцьці свайго пчальніка ён знайшоў толькі адны сьляды ад яго. Лютыя мышы зьелі ўсё. Янка страшэнна засумаваў, доўга аплаківаў сваю першую пчалярскую няўдачу, аж пакуль бацька не падараваў яму на ўласнасьць маленькі раёк, які выйшаў з зімы слабым. Ад тае пары Янка стаў запраўдным пчаляром і добра яму павялося.

(Пераклаў з украінскага **А. Войніч**)

# KUTOK ŚMIECHU.

* * *

V u č y c i e l: Ty pieraličyŭ usie chatnija žyvioły aprača adnej. Maje jana šorstkija vałasy, nienavidzić vady, byvaje zaŭsiody brudnaja... Nu, Piatruk, zhadaŭ?

P i a t r u k (zasaromiŭšysia): —Heta ja.

* * *

— Stefuś, katoraja hadzina?

— Za dziesiać minut druhaja.

— Moj daražeńki, ja nie chaču viedać, katoraja budzie za dziesiać minut, tolki katoraja ciapier!

* * *

Čamu dni ciapier što raz karaciejšyja?
Bo ad chaładu ŭsio korčycca.

# Хроніка.

## З беларускага жыцьця.

**З дзейнасьці Беларускага Нацыянальнага Камітэту ў Вільні.** У месяцы кастрычніку сёл. г. ў дзейнасьці Бел. Нацыянальнага Камітэту ў Вільні заўважваецца асаблівае ажыўленьне. Выклікана яно бязумоўна новым паходам супроць беларускага народу ягоных ворагаў.

Вось-жа дня 4 кастрычніка адбылося паседжаньне Праваслаўнае Камісіі БНК, на якой па разгледжаньні сучаснага стану Праваслаўнае Царквы ў Зах. Беларусі вынесены былі рэзалюцыі з дамаганьнямі спыніць далейшую русыфікацыю беларусоў праз царкву, выдаваньня беларускае рэлігійнае праваслаўнае літэратуры, пакліканьне на місіянэраў духоўнікаў беларусоў, навучаньне рэлігіі ў школах пабеларуску і інш.

10 кастрычніка адбылося паседжаньне Прэзыдыюму БНК, на якім разглядана была паміж іншым справа рэформы беларускага правапісу ў БССР.

20 кастрычніка адбылося паседжаньне Беларускага Каталіцкага Цэнтру—сэкцыі БНК, на якім па ўсебаковым разгледжаньні рэлігійнага жыцьця беларусоў каталікоў, вынесена рэзалюцыя пратэсту супроць бязупыннай полёнізацыі беларусоў каталікоў, а так-жа супроць полёнізацыі рэлігійнага жыцьця на Беларусі і замены лацінскага напісу на Вострай Браме ў Вільні на польскі, заклікаючы пры тым усіх беларусоў каталікоў да байкоту псэўдо каталіцкае часопісі „Nasz Przyjaciel" і такой-жа арганізацыі „Stowarzyszenie Młodzieży Polskiej", падтрымліваных польскім духавенствам, якія служаць перадусім эндэкам-шовіністам у іх полёнізатарскіх імкненьнях.

21 кастрычніка адбыўся Агульны Сход БНК, на якім шырэй абгаворвана было палажэньне беларускага народу ў Беларусі пад Саветамі і зьмена правапісу. У гэтай справе Агульны Сход БНК вынес рэзалюцыю, у якой пратэстуе: 1. проціў нішчэньня маскоўска-камуністычным імпэрыялізмам Беларускага Народу фізычна, 2. проціў душэньня беларускае культуры і наагул беларускага народнага жыцьця і 3. проціў рэформы беларускага, управапісу падабняючай самую мову — насупроць філёлёгіі і самога жыцьця — да мовы расейскае, або якое іншае.

На гэтым-жа сходзе БНК-ту прынята так-жа ў сябры БНК-ту Беларускае Дабрадзейнае Т-ва ў Стоўпцах і справаздача з дзейнасьці Сэкцыяў К-ту.

**На задушкі ў Вільні.** За прыкладам мінулых гадоў віл. беларускае грамадзянства ў дзень каталіцкіх задушкаў (2.XI) зьбіраецца адведаць магілы беларускіх паэтаў на Росах. Зборны пункт пры магіле К. Сваяка на „горцы паэтаў" а г.17.

**Канцэрт славянскае песьні.** 19 лістапада с. г. ў Меставай залі ў Вільні мае адбыцца Канцэрт Славянскае Песьні, на якім мае выступаць Беларускі Хор БСС пад кіраўніцтвам грам. Р. Шырмы. Даход прызначаны на карысьць незаможных вучняў Бел. Філіі Дзярж. Гімназіі ім. Ю. Славацкага ў Вільні.

**Незацьверджаньне новых і завешаньне старых гурткоў Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры.** Нядаўна Наваградзкае стараства завесіла дзейнасьць гуртка Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры ў в. Station Варакомшчыне за бяздзейнасьць. Даслоўна — завешваецца дзейнасьць за бяздзейнасьць(!?)...

Нясьвіскае стараства адмовілася залегалізаваць гурток Бел. Інстытуту ў в. Вялікая-Быхаўшчына.—Вось і вядзі культурную працу...

**З выдавецкае нівы.** Ужо вышаў з друку і паступіў у прадажу Беларускі Адрыўны Календар на 1934 г. Ёсьць ён дужа добра апрацаваны і выданы. Памылак ня відаць. Мае ён два стылі — новы (каталіцкі — лацінікай) і стары (праваслаўны—гражданкай), апрача таго многа цікавых матэрыялаў (вершы, парады, прадсказаньні пагоды, жарты), адзіночны экзэмпляр каштуе ўсяго 60 грошаў. Купіць можна ў беларускіх кнігарнях у Вільні і ў звычайных прадаўцоў на правінцыі. Напамінаць хіба будзе лішнім, што такі календар кожны беларус павінен купіць.

## З жыцьця украінскае моладзі.

**Працэсы, забойствы і дэманстрацыі.** Апошнім часам адбылося аж некалькі працэсаў над украінскай моладзяй, абвінавачанай за ўчасьце ў забойстве ведамага польскага дзеяча на грунце украінскім і беларускім Т. Голувкі, за напад на пошту, за зраненьне паліцмана. І так: некалькі чалавек засуджаных аказалася на 10 гадоў, а нават і на дажывотні вастрог. — 21 кастрычніка с. г. студэнт Львоўскага Унівэрсытэту украінец Лэмык, які сам заявіўся сябрам Арганізацыі Украінскіх Нацыяналістаў, хацеў забіць Савецкага консуля ў Львове. Гэта яму аднак не ўдалося, але забіў ён начальніка канцэлярыі консуляту А. Майлова, а так-жа раніў у рукі ўрадаўца консуляту Я. Джугая. Стрэлы ў консуляце нарабілі многа страху і некаторыя ўрадаўцы пахаваліся ў падвалы, дзе прасядзелі, пакуль пакліканая праз вакно (бо дзьверы былі зачынены) паліцыя не арыштавала Лэмыка, які без апору здаўся. Грaзіць яму кара сьмерці.

*СЯБРЫ РЭДАКЦЫЙНАЕ КАЛЕГІІ:*
*Ізабэля і Альфонс Шутовічы і Язэп Малецкі*

**Рэдактар Язэп Найдзюк** **Выдавец Янка Багдановіч.**

Падчас праваслаўнага фэсту ў Пачаеўскай Лаўры на Валыні, дзе быў прысутны Мітр. Дзяніс і многа прав. сьвяшчэньнікаў, украінская моладзь тады, калі выходзіў крыжовы ход, сарганізавала вялікую дэманстрацыю супроць русыфікацыі украінцаў праз царкву і супроць расейцаў. Падчас дэманстрацыі выкінута было многа транспарантаў з лёзунгамі: „Проч з маскоўскімі місіянэрамі ў нашай царкве", „Досьць маскоўскага палітыканства ў Прав. Царкве!", „Проч з русыфікацыяй у Прав. Царкве" і ім падобныя, у гэты-ж час на найвышэйшай копуле быў завешаны украінскі нацыянальны сьцяг. У часе гэтае дэманстрацыі паўстала паніка і Мітрапаліт з некаторымі сьвяшчэньнікамі ўцяклі ў палац. — Пасьля гэтае дэмострацыі нядаўна Мітр. Дзяніс выдаў пасланьне, у якім між іншым гаворыцца аб хуткім сазыве Сабору Прав. Царквы ў Польшчы.

Так украінская моладзь змагаецца за незалежнасьць сваей бацькаўшчыны, пачынаючы работу гэту аб вызваленьне свае душы з путаў чужое няволі.

## Usiačyna.

**Novaje zbožža.** Vienski praf. Dr. Czermak-Seysenegg, praz zmiašańnie zarodyšaŭ pšanicy z žytam vyhadavaŭ novaje zbožža.

**Najvialikšy aeraplan.** U Charkavie (Ukraina) zbudavali najvialikšy pasažyrski aeraplan, jaki maje 128 miejsc siadziačych, abo 64 spalnych u 16 kajutach i pamiaščeńnie dla abslułhi. Aproč taho ŭ aeraplanie hetym jošć salon i pamost dla spacyru, jaki ŭmieščany pamiž kryłami.

**Novyja stralnyja kuli i harmaty.** U dunskaj fabrycy amunicyi ŭ Kopenhazie vydumali novyja strelnyja kuli, jakija mohuć prabivać pancyr. U Japonii skanstruavali novuju harmatu, jakaja maje ŭ praciahu adnaje minuty vypuščać ad 10.000 da 60.000 vystrałaŭ.

**600 klm. na hadzinu** Italjanski latun Scapinelli na aeraplanie pralacieŭ 619.37 klm. na hadzinu. Pabiŭ jon hetym usie dasiulešnija rekordy skaraści ŭ latunstvie.

**Novyja trujučyja hazy.** Dyrektar chemičnaha instytutu ŭ Clermont Ferrand (Francyja) praf Bert adkryŭ novy haz, ad jakoha nia zdoleje abaranić žadnaja maska. — U vialikaj-ža chemičnaj fabrycy Schering-Kahlbaum u Berlinie (Niamieččyna) fabrykujecca padobna novy haz, vydumany G. Strasseram Nazyvajecca jon chlorylen. Pieršaja ataka takoha hazu niščyć skuru i vočy. Druhaja faza zmušaje čałavieka śkinuć masku. Treciaja— niščyć unutrany arhanizm, paśla čaho nastupaje ŭ strašnych kanvulsijach śmierć.

**Najbahaciejšy jazyk śvietu.** Pavodle ćvierdžańniaŭ amerykanskaha lingvista Roberta Ramsay'a, najbahaciejšaj movaj što da kolkaści słoŭ jošć mova anhlijskaja, jakaja maje 250.000 słoŭ, z katorych adnak 50.000 nia ŭžyvajucca z pryčyny pierastarełaści. Dalej idzie mova niamieckaja, jakaja maje 184.700 słoŭ, paśla: madziarskaja — 120.000 słoŭ, francuskaja — 93.000

Przesyłka opłacona ryczałtem.

słoŭ, hišpanskaja—70.000, italjanskaja—64.000. Cikava adznačyć, što staradaŭnaja łacina, z katoraj pachodziać try jazyki ramanskija, mieła ŭsiaho 51.000 słoŭ.

**100-lećcie naradzinaŭ Nobla.** 21 kastryčnika s. h. prypadali 100 tyja ŭhodki naradzinaŭ vialikaha švedzkaha vynachodčyka Nobla. Z svaich vynachadaŭ Nobel pad kaniec žyćcia mieŭ vialikija kapitały. Viedajučy-ž, što najvialikšy jaho vynachad dynamitu pryčynicca nia tolki da raźvićcia kultury, ale i pryładaŭ vajennych (artyleryja), niščačych usio na śviecie, ufundavaŭ jon z pracentaŭ hetych kapitałaŭ naharody dla roznych navukoŭcaŭ za ich pracy, a tak-ža „za pracu nad uładžańniem na śviecie supakoju i zbližeńnia narodaŭ", jakija što hod razdaje štokholmskaja akademija. Hetkim sposabam Nobel „adkuplaje" ŭsio toje zło, jakoje pryniaśli jaho vynachady.

**13.800 metraŭ na aeraplanie.** Francuski latun Lemoine niadaŭna na aeraplanie ŭźlacieŭ na vyšyniu 13.800 metraŭ i hetym pabiŭ dasiulešni rekord anhlijskaha latuna, jaki padymaŭsia na 13.404 metraŭ.

**Novyja paloty ŭ stratosferu.** Niadaŭna saviecki vajskovy balon „SSRR." lotaŭ u stratosferu. Palot adbyŭsia ŭdačna, balon padniaŭsia na vyšyniu 19 kilometraŭ i 300 metraŭ nad ziamloj. Padčas lotu zroblena mnoha cikavych navukovych spaściarohaŭ. — Hišpanski pałkoŭnik Emilio Xerrera maje namier taksama ŭ chutkim časie lacieć u stratosferu, ale nia tak, jak heta rabili praf. Picard i savieckija latuny—u zakrytych balonach, ale ŭ adkrytym. Xerrera dumaje padniacca na vyšyniu 23 klm.

## Наша пошта.

П. Г., Ш. Ю., В. П. і П. Р. (маладым бел. коопэратарам). За дужа мілае і цэннае Вашае пісьмо шчырая падзяка. Дужа цешымся, што „Ш М." Вам падабаецца і што думкі яго разумееце. Просьбу споўнілі. Вашаму Сябру, а ўсім нам, Брату-Украінцу, за яго гарычыя і прыяцельскія пажаданьні перадайце шчырую падзяку.

Шкутку А. у Бэрліне. Атрыманы намі Ваш артыкул аб праблеме моладзі ў Нямеччыне, дужа цэнны, ён ёсьць чыста навуковы і абапёрты на нямецкай літэратуры, на жаль не знаёмай для вялізарнай большасьці нашых чытачоў; дзеля гэтага будзе ён ім незразумелым і з гэтай прычыны ня можам яго надрукаваць у „Ш. М." Просім напісаць нам штось з сучаснага жыцьця нямецкае моладзі ў форме папулярнай, за што будзем дужа ўдзячны.

М. Машары. Пісьмо і вершы атрымалі, дзякуем, скарыстаем, на запытаньні адказ будзе пісьмом.

М. Засіму. „Шл. М." будзем высылаць і на далей. Просім прысылаць нам свае творы, па магчымасьці будзем друкаваць.

М. Бярозцы. Вершы атрымалі, дзякуем, як бачыце друкуем, просім штось напісаць з жыцьця моладзі ў Вашай старонцы.

Шчырыку. Карэспандэнцыю атрымалі, скарыстаем, просім пісаць часьцей.

П. Прадусе. Вершы атрымалі, адзін з іх, як бачыце, друкуем, рэшта слабыя формай. Просім прыслаць нам тыя вершы, за якія атрымалі Вы падзяку і копію самой падзякі. Падпіску атрымалі. Грам. А. Васілеўскі Вашых і грам. М. Завадзкага грошай нам не перадаў, а на паказанае намі яму Вашае пісьмо заявіў, што у хуткім часе „Авадзень" будзе ўзноў выходзіць.

**P. R—čku.** Vašy vieršy słabyja, radzim adnak pisać, tolki prozaj.